Прачытай сам і перадай другому.

На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою.
Якуб КОЛАС

№ 20 (4580)

16 сакавіка 2021 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

**Дзякуй усім, хто падтрымлівае «Народную Волю» ў гэты надзвычай цяжкі час.**

*Рэдакцыя.*

БЕЗ РОЗОВЫХ ОЧКОВ



Александр КЛАСКОВСКИЙ, специально для «Народной Воли»

## Ноль друзей – у кого?

*«Обратите внимание на мою фразу: друзей у нас в мире нет»*, – заявил в минувшую субботу на «Минской лыжне» Александр Лукашенко, который много лет козырял многовекторностью внешней политики, намеревался превратить Минск в Хельсинки-2, помпезно объявлял о стратегическом партнерстве с важными мировыми игроками.

Теперь же получается, что все это было блефом или пошло прахом. Навернулась многовекторность, улетучилось донорство стабильности, короче – оказались державные мужи у разбитого корыта.

Как докатились до жизни такой? Ведь еще год назад, например, после братания Лукашенко с госсекретарем США через океан шли танкеры с американской нефтью. Триумф, смычка с самой могущественной державой планеты! А теперь Вашингтон ввел санкции и запросто может прищемить пальцы еще сильнее. Что, американцам бзик зашел, белорусы им так резко разонравились?

Да нет же, наши рядовые граждане Штатам ничем не насолили. Закавыка в том, как белорусские власти провели выборы. А провели их с особым цинизмом, по беспределу, масштабно сфальсифицировав результаты голосования. Когда же возмущенные люди вышли на улицу, режим обрушил на них невиданные по масштабу и жестокости репрессии. На такие вещи Запад просто обязан реагировать как минимум для сохранения лица.

Европа уж как с Беларусью цацкалась, надеялась перевоспитать диктатуру: придумала программу «Восточное партнерство», деньги давала, за миротворчество поощряла (помните, сама Меркель прилетала и белорусский вождь ей букет дарил?). Но даже мягкотелый Брюссель был вынужден пойти на обострение, не признав Лукашенко легитимным руководителем после выборов-2020. Потому что режим, и прежде не проводивший электоральные кампании в белых перчатках, на этот раз отбросил все приличия.

А чтобы не признавать, что сами наломали дров и вызвали народный гнев, власти стали валить всё на забугорных кукловодов, которые-де хотят захватить, разодрать и разграбить синеокую Беларусь. Официальный Минск, презрев старую мудрость, что с соседями надо ладить, стал вешать всех собак на Вильнюс, Варшаву, Киев. И что, в ответ вы ожидали тепла и ласки?

Украину обвинили в том, что она, мол, дестабилизирует у нас ситуацию, что оттуда идут тонны оружия. Но здесь концы с концами явно не сходятся, поскольку доблестные белорусские погранцы рапортуют, что граница на замке. Понятно, Киев возмущен напраслиной.

С литовцами белорусские власти и вовсе на ножах. Как же – Вильнюс приютил Тихановскую с окружением. О том, что ее просто выдавили из Беларуси шантажом, как-то не вспоминается.

Да, и еще литовцев решили наказать переводом экспорта нефтепродуктов (а потом, наверное, и калийных удобрений) с Клайпеды на российские порты, куда возить намного дальше. Это называется: назло маме уши отморожу.

Теперь вот разгорается дипломатическая война с Польшей. Минск начал с высылки польского консула из Бреста – и пошло-поехало. Консула обвиняют в том, что тот участвовал в мероприятии, на котором восхваляли-де убивавшего белорусов офицера Армии Крайовой Райса, хотя польская сторона утверждает, что это имя там даже не упоминалось, никакой антибелорусскостью на мероприятии и не пахло.

Факт то, что начался обмен ударами, стороны стали поочередно высылать дипломатов, причем Минск явно идет на эскалацию конфликта. И многие обозреватели делают вывод, что белорусские власти просто нашли повод придраться к полякам, отомстить Варшаве за санкции и поддержку оппозиции.

Сейчас во властных кругах витает идея учредить День народного единства, назначив его на 17 сентября или 14 ноября. Обе даты связаны с разделом Польши между Сталиным и Гитлером в 1939 году.

Я уж не говорю о том, что предполагаемый новый праздник сам по себе выглядит нелепым в ситуации, когда власть не собирается идти на диалог с оппонентами, то есть с миллионами людей, которые требуют новых президентских выборов, восстановления справедливости в стране.

Заявление, что у нас нет друзей, провоцирует и такой вопрос: а что, уже и с Россией, и с Китаем прошла любовь, завяли помидоры?

Впрочем, песни про братскую интеграцию с восточной соседкой всегда были фальшивыми. Но теперь Кремль, судя по всему, и впрямь решил дожимать, пользуясь тем, что после выборов руководство Беларуси сожгло мосты в отношениях с Западом и тем самым сделало страну еще более уязвимой перед имперскими поползновениями с востока.

Да и Пекин наверняка недоволен тем, что Минск разбил горшки в отношениях с Европой, потому что китайцам Беларусь нужна как звено пути на европейские рынки.

В общем, и впрямь – куда ни кинь, всюду клин. Так испортить отношения со всем миром и особенно с соседями – это, конечно, надо уметь.

Только дело, как видим, не в характере белорусов, а в характере политического режима. Режима, который мыслит в категориях поиска врагов, которому повсюду мерещатся подкопы и заговоры. Режима, который, отстаивая свое «святое» право молотить дубинками, истязать и сажать в тюрьмы граждан, всего лишь требующих честных выборов, готов показывать большой кукиш всем нормальным странам, которые в ужасе от таких художеств.

Нет друзей? Ну так а кто захочет дружить с нечистоплотной, сварливой, сорвавшейся с катушек властью, которая плюется, как верблюд, на все четыре стороны?

Белорусы же в массе своей – доброжелательный, толерантный народ. И когда этот режим бесславно закончит свои дни, новая Беларусь, я уверен, быстро найдет общий язык со всем миром.

ПРАТЭСТ

Анжаліка АРЭХВА, жонка Ігара БАНЦАРА:

## «Муж слабее з кожным днём…»

*Два тыдні рок-музыкант з Гродна трымае сухую галадоўку ў ізалятары гродзенскага СІЗА.*



Ігар Банцар са сваёй сям'ёй.

**Ігар Банцар** – рок-музыкант з Гродна. Жанаты, разам з жонкай Анжалікай гадуюць траіх дзяцей.

Банцар лічыць сябе апалітычным, аднак мінулым летам хадзіў на вулічныя пратэсты, тройчы сядзеў на “сутках” па адміністрацыйных справах за ўдзел у мітынгах.

20 кастрычніка музыканта затрымалі па крымінальнай справе аб хуліганстве – за тое, што танцаваў перад міліцыяй без штаноў.

3 сакавіка суд Ленінскага раёна Гродна пачаў разглядаць справу Ігара Банцара, і на працэсе ён заявіў, што ў знак пратэсту распачынае сухую галадоўку.

– Апошні раз адвакат наведваў Ігара ў мінулую суботу, – *распавяла “Народнай Волі” жонка вязня Анжаліка Арэхва*. – Мужа перавялі ў іншую камеру, але ён працягвае сухую галадоўку, якая доўжыцца з 3 сакавіка. Ігар вельмі схуднеў, калі адпачывае, то яму становіцца крыху лягчэй. Прыходзіць урач, правярае ціск. Не ведаю, што яны там яшчэ робяць.

**– Ён не ўжывае ні ваду, ні ежу?**

– Нічога не ўжывае. Я не ведаю, як такі тэрмін чалавек можа пратрымацца, але ёсць тое, што ёсць.

**– Можа быць, яго кормяць прымусова?**

– Пакуль такой інфармацыі не маю. Пра гэта мне не паведамляў нічога ні Ігар, ні адвакат. Але муж слабее з кожным днём.

**– Ці просіце вы яго спыніць галадоўку?**

– Нічога не прашу, бо ведаю ўпарты характар Ігара. Яго маці падчас судовага пасяджэння прасіла, каб ён спыніў сваю акцыю пратэсту, і я таксама з ёй згодна. Здароўе – гэта галоўнае, што ёсць у чалавека, а даказаць усё роўна нічога не зможаш. Але гэта асабісты выбар Ігара.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

### Былы палітвязень і экс-дэпутат Палаты прадстаўнікоў Сяргей Скрабец у свой час таксама праводзіў за кратамі сухую галадоўку і распавядае, якія могуць быць наступствы для таго, хто галадае:

– Сухую галадоўку я праводзіў пяць дзён, а затым ужо стаў піць ваду. Увогуле ж мая акцыя пратэсту працягвалася каля двух месяцаў.

Чытаў на гэтую тэму розную навуковую літаратуру, і, калі не памыляюся, рэкорд сухой галадоўкі – 18 дзён. Дзесьці на 12–13-ы дзень пачынаюцца праблемы з печанню, бо забіваюцца капіляры, і чалавек аказваецца ў крытычным стане.

Падчас такой галадоўкі замаруджваюцца ўсе працэсы ў арганізме, падае ціск і зніжаецца тэмпература цела. Шлакі выводзяцца па-іншаму. Можна адзін раз схадзіць у прыбіральню і згубіць прытомнасць.

Адміністрацыя ізалятара, думаю, не зацікаўлена ў тым, каб у іх ад галадоўкі памёр чалавек. Калі Ігару прымусова не пачнуць ставіць кропельніцу з глюкозай, яго могуць і не выратаваць.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

Юрый ГУБАРЭВІЧ:

## «У нашай заяўцы не запланавана ніякіх ні правакацый, ні сутыкненняў»

*Кіраўнік руху «За свабоду» распавёў «Народнай Волі» пра тое, як ідзе падрыхтоўка да святкавання Дня Волі.*

Нагадаем, што на мінулым тыдні ў Мінгарвыканкам была пададзена заяўка на правядзенне ў сталіцы масавага мерапрыемства, прысвечанага Дню Волі. Заяўка паступіла ад трох юрыдычных асоб – руху “За свабоду”, ГА БНФ “Адраджэнне” і Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада).

Мэта мерапрыемства – святкаванне 103-х угодкаў з моманту абвяшчэння БНР і ўзняцце тэмы нацыянальнага кансэнсусу па пытанні незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

– Ніякага адказу з Мінгарвыканкама нам пакуль не паступіла, – кажа **Юрась ГУБАРЭВІЧ.** – Думаю, будуць цягнуць да апошняга. Як правіла, калі ў іх ёсць настрой на дазвол, то яны паведамляюць пра гэта раней. Але паводле маіх адчуванняў і тых выказванняў, якія зрабіў кіраўнік КДБ Іван Церцель, хутчэй за ўсё, будуць шукаць нагоду для адмовы. У такой сітуацыі цягнуць да апошняга – звычайная справа.

**– Старшыня КДБ заявіў, што “асобамі за мяжой” распрацаваны тры сцэнарыі на Дзень Волі ў Мінску, і першы з іх прадугледжвае падачу афіцыйнай заяўкі на 25 сакавіка са зборам на плошчы Якуба Коласа. Многія адразу ж пачалі крытыкаваць заяўнікаў, бо сабраць мітынг у цэнтры горада ніхто не дазволіць. Значна больш шанцаў атрымаць афіцыйны дазвол было б, калі б заяўка падавалася на збор людзей на плошчы Бангалор…**

– Мы зараз не маем права разгалошваць ні месца збору людзей, ні дату і час правядзення мерапрыемства, таму ўсе пытанні да тых прадстаўнікоў сілавых структур, якія агучылі нейкія сцэнарыі. Мы не можам з гэтай нагоды нешта каментаваць, бо дадзім нагоду для адмовы.

**– Зараз ужо ідзе нейкая падрыхтоўка да Дня Волі?**

– Пралічваем розныя варыянты па правядзенні мерапрыемства, але зноў-такі на падставе закона не можам весці нейкую практычную падрыхтоўку, пакуль не далі дазвол на яго правядзенне.

Па законе нам павінны даць адказ не пазней як за пяць дзён да пачатку акцыі. Думаю, пяць дзён нам будзе абсалютна дастаткова, каб у выпадку легальнага мерапрыемства можна было мабілізаваць туды ўдзельнікаў.

**– Іван Церцель таксама заявіў, што трэці сцэнарый, калі дазвол на мітынг не будзе атрыманы, прадугледжвае несанкцыянаваныя акцыі і правакацыі…**

– Ніякіх іншых сцэнарыяў, акрамя таго, што пазначаны ў пададзенай намі заяўцы, мы не распрацоўваем. А ў нашай заяўцы не запланавана ніякіх ні правакацый, ні сутыкненняў.

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ.**

З НАГОДЫ

## Чаму Валянцін Сукала не ўвайшоў у склад Канстытуцыйнай камісіі?

*Учора, 15 сакавіка, у Дзень Канстытуцыі, улады прэзентавалі тых, хто будзе працаваць над абноўленым варыянтам Асноўнага закона краіны.*

Тэлеграм-канал «Пул Першага» апублікаваў персанальны склад камісіі, у якую ўвайшлі 34 чалавекі. Сярод іх не толькі прафесійныя юрысты, але і людзі, вельмі далёкія ад заканатворчай дзейнасці – напрыклад, вядомы доктар **Алег Румо**, паралімпіец **Аляксей Талай**, рэжысёр **Аляксандр Яфрэмаў** і іншыя. Нельга выключаць, што для некаторых запрашэнне ўвайсці ў Канстытуцыйную камісію стала сюрпрызам.

Сярод тых, хто ўвайшоў у камісію, – прэм'ер-міністр **Раман Галоўчанка**, старшыня Савета Рэспублікі **Наталля Качанава**, кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта **Ігар Сергеенка**, старшыня Палаты прадстаўнікоў **Уладзімір Андрэйчанка,** экс-генпракурор **Рыгор Васілевіч**, палітолагі **Аляксандр Шпакоўскі** і **Юрый Васкрасенскі**, першая намесніца міністра аховы здароўя **Алена Богдан** і іншыя.

Пры гэтым у складзе камісіі няма ніводнага прадстаўніка апазіцыі і дэмакратычнай супольнасці. Не запрасілі туды нават **Мечыслава Грыба**, які паставіў подпіс пад дакументам аб прыняцці першай Канстытуцыі незалежнай Беларусі.

Напрыканцы жніўня, сустракаючыся са старшынёй Вярхоўнага суда, Лукашэнка папрасіў **Валянціна Сукалу** далучыцца да працы над абноўленай Канстытуцыяй: *“Я хачу, каб вы ўсё ж такі як дасведчаны чалавек сваё слова сказалі…”* Але Сукалы не было сярод тых, хто ўчора быў запрошаны на нараду да Лукашэнкі. А можа, адмовіўся?

Дакладна не вядома, ці пачне гэта наваўтвораная камісія сваю працу толькі зараз альбо гэтыя людзі ўжо некаторы час працавалі над праектам Канстытуцыі. Бо А.Лукашэнка яшчэ некалькі месяцаў таму распавядаў, што яму ўжо прадставілі ажно тры варыянты змен у Канстытуцыю, але ён іх усе забракаваў, бо яны былі *“занадта мяккімі”*.

Грамадскасці не паказалі ніводны з прапанаваных праектаў.

А вось альтэрнатыўная камісія па падрыхтоўцы новага варыянта Канстытуцыі ўжо прэзентавала свой праект новага Асноўнага закона. Азнаёміцца з ім можна ў інтэрнэце. Старшыня рабочай групы па распрацоўцы канстытуцыйнай рэформы, упаўнаважаны **Святланы Ціханоўскай** па канстытуцыйнай рэформе **Анатоль Лябедзька** называе гэты праект народным. Праца над ім пачалася з 13 сакавіка 2019 года. Асновай для стварэння Асноўнага закона новай Беларусі стала Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь 1994 года і Малая Канстытуцыя 2006 года, прынятая на Кангрэсе дэмакратычных сіл. Праект прадугледжвае пераход з прэзідэнцкай на парламенцкую форму праўлення. Менавіта парламент будзе выбіраць прэм'ер-міністра і зацвярджаць урад. А ўрад у сваю чаргу будзе справаздачыцца перад парламентам.

Учора А.Лукашэнка сказаў: *“Мы імкнуліся ахапіць усе сферы жыцця і грамадства, каб максімальна ўлічыць інтарэсы і голас кожнага беларуса”*. Але калі б гэта было праўдай, то Лябедзьку дакладна ўключылі б у склад гэтай афіцыйнай Канстытуцыйнай камісіі і запрасілі б на ўчарашнюю нараду.

**Марына КОКТЫШ.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
16 САКАВІКА 2021 г.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# Соломоново решение

## Нацбанк Беларуси похож на канатоходца: направо ступишь – свалишься, налево шагнешь – рухнешь

12 марта состоялось перенесенное с февраля заседание правления Нацбанка по денежно-кредитной политике. В частности, решился вопрос о ставке рефинансирования и ставкам по операциям регулирования ликвидности. Перенос сроков рассмотрения острой проблемы главный регулятор объяснял необходимостью дополнительного изучения ситуации, складывающейся в белорусской экономике.

А ситуация складывается хуже некуда. Финансовое состояние белорусских предприятий продолжает резко ухудшаться. Особенно в госсекторе. Прибыль в 2020-м против года предыдущего упала более чем в 20 (!) раз. Целый ряд государственных предприятий имеет весьма ограниченные возможности по самостоятельному обслуживанию долговых обязательств перед банками. Объем задолженности таких предприятий достиг 14% к ВВП. Многие из них вообще хронически некредитоспособны. Отказ правительства что-либо принципиально менять в их неэффективных бизнес-моделях приводит к тому, что долговая болезнь загоняется вглубь. Долговой навес либо переносится на бюджет и банки, либо долги реструктуризируются, то есть выплаты по кредитам и облигациям госпредприятий растягиваются до 2030-го и даже до 2050 года. Что равносильно списанию долгов.

А кредитовать неплатежеспособные предприятия надо, в противном случае они прекратят свою деятельность, и десятки тысяч людей окажутся на улице. Поэтому на Нацбанк идет постоянное давление со стороны руководства госпредприятий, властей, с тем чтобы госсектор беспрерывно обеспечивался дешевыми кредитными средствами. А для того, чтобы банки уменьшили свои кредитные проценты, необходимо дать им сигнал со стороны главного регулятора – снизить ставку рефинансирования. Но куда ее снижать, если по последним данным Белстата в феврале цены выросли на 1,9%, а в годовом измерении – на 8,7%? Таким образом, уровень инфляции перекрыл ставку рефинансирования Нацбанка (7,75%). Такое случалось очень давно. Ставка рефинансирования любого центробанка должна поддерживаться над уровнем инфляции. Ни центробанк, ни банки не могут кредитовать себе в убыток, когда получаемый ими кредитный процент полностью съедается инфляцией.

С этой точки зрения на заседании правления 12 марта руководство Нацбанка должно было принять решение о повышении ставки рефинансирования. Но не приняло, оставив ее на прежнем уровне. Очевидно, верхушка главного регулятора предвидела, какой будет реакция А.Лукашенко и правительства на удорожание кредитов банковской системы, выдаваемых и так еле дышащему госсектору. Отсюда и Соломоново решение Нацбанка – и вашим и нашим.

Причем, чтобы впредь не попадать в такое, мягко говоря, некомфортное положение, Нацбанк отменяет график заседаний правления по проблемам денежно-кредитной политики, установленный на 2021 год. Потому что, согласно графику, вопрос в повестке дня «Что будем делать со ставкой рефинансирования?» рассматривался один раз в два месяца. Сейчас он будет рассматриваться по мере необходимости.

Помимо этого, для ограничения разгоняющейся инфляции правление главного регулятора приняло решение, направленное на усиление контроля за приростом рублевой денежной массы. Выдача со стороны Нацбанка постоянно доступных кредитов овернайт для поддержки ликвидности банков не будет возобновляться. Как и ранее, поддержка ликвидности банков будет осуществляться путем проведения кредитных аукционов до 7 дней в форме конкурса процентных ставок, а также ежемесячных аукционов по предоставлению кредитов на срок 6 месяцев по объявленной процентной ставке.

Продолжающийся рост инфляции – суровая реальность политического и экономического кризиса в стране. При всех ограничениях Нацбанка в экономику все-таки идут необеспеченные деньги, иначе многие промышленные флагманы на плаву не удержать. Чем это заканчивалось в прежние годы, белорусы хорошо помнят. Как сегодня модно писать, резко увеличатся риски дальнейшей инфляции и девальвации. Надо полагать, что правительство надеется на снижение инфляции под влиянием сезонного фактора. С потеплением к маю-июню снизятся цены на овощную продукцию. Надеется, что пик инфляции будет пройден, и к августу, как и каждый год, она будет минимальной. Но есть и обратная сторона сезонного фактора: впереди посевная кампания, которая потребует крупных кредитов для предприятий сельского хозяйства и их смежников. А пока Нацбанк похож на канатоходца: направо ступишь – свалишься, налево шагнешь – рухнешь.

ГЕНЕРАЛИТЕТ

# Игорь ЕВСЕЕВ: «Время покажет, что к чему…»

*На днях сняли с должности помощника президента – инспектора по Минской области генерала Игоря Евсеева. По соцсетям расползлось немало версий, почему это случилось.*



В свое время Евсеев служил в элитных войсках – третьей бригаде Главного разведывательного управления Военно-Воздушных Сил СССР, которая дислоцировалась в ГДР. Был участковым, работал в охране Лукашенко. Возглавлял УВД Минской и Витебской областей.

«Прославился» он во время разгона *Плошчы-2010*, акций молчаливого протеста и «Стоп-бензин». За все свои подвиги получил не только орден «За службу родине», но и попал в санкционный список Евросоюза.

Осенью 2017 года генерала Евсеева назначили помощником президента – как сказал тогда Лукашенко, *«в качестве эксперимента»*.

*«Посмотрим, как сложится судьба генерала в этой гражданской должности, хотя трудно сказать, что она гражданская: она порой важнее и еще более военная, чем у некоторых людей с погонами»*, – объяснил А.Лукашенко.

Как бы там ни было, генерал действительно неплохо адаптировался к гражданской работе. И среди всех действующих помощников президента Евсеев, пожалуй, был одним из самых заметных. Он часто проводил приемы, встречался с простыми людьми, которые приходили к нему с самыми разными вопросами.

*«Приемы граждан позволяют из первых уст узнать о проблемах, такая форма общения приближена к реальной жизни,* – говорил Евсеев. – *Выезжаем на места, чтобы увидеть проблемы граждан и принять решение. Если сразу не получается снять тот или иной вопрос, я беру его на контроль, поручаю соответствующим службам местных органов власти в нем разобраться. Впоследствии меня информируют о принятых решениях или проведенных мероприятиях.*

*В каждом регионе есть свои проблемы и своя специфика. Главное, что любой гражданин может обратиться к представителю президента. К слову, о работе на личных приемах я информирую главу государства, и он владеет полной информацией о том, что беспокоит людей на местах»*.

У Игоря Евсеева трое детей. Мало кто знает, что сын Евсеева был одним задержанных во время акций протеста сразу после выборов. Случайно попал в руки омоновцев в общей толпе или на самом деле участвовал в акциях протеста – точно не известно.

В соцсетях писали, что Игорь Евсеев мог банально не оправдать доверия Лукашенко. И что в последнее время он частенько совершал визиты в Москву, где общался с разными людьми, в том числе и с выходцами из белорусских силовых структур. Хотя версия о том, что Евсеев мог «переобуться в полете», кажется не самой правдоподобной, ибо генерал и после отставки повторяет: *«Служу Родине и президенту!»*

Не исключено, что Игорь Евсеев стал жертвой кулуарных интриг, поэтому и оказался отодвинут на задний план. Сейчас место у трона стремится занять новое поколение генералов – молодых и еще более беспринципных. Евсеев при всей своей преданности режиму не совсем вписывается в их команду. А у Лукашенко нет традиции говорить с теми, кого он по каким-то причинам решил убрать с должности: некоторые бывшие министры о том, что подписан указ об их отставке, узнавали в разгар своего рабочего дня. Фактор неожиданности, так сказать. Чтобы никто не расслаблялся.

Игорю Евсееву всего 53 года. Может, через некоторое время его, как и некоторых других силовиков, командируют в почетную дипломатическую ссылку – как говорится, отправят от греха подальше, чтобы не плодить обиженных генералов. А может, Евсееву придется трудоустраиваться самостоятельно – были и такие случаи с некоторыми отставными генералами, которые после госслужбы внезапно нашли себя в бизнесе. В любом случае не пропадет!

«Народная Воля» поинтересовалась у самого Игоря Евсеева: за что все-таки его «ушли» с должности?

– *А давайте я не буду ничего комментировать,* – ответил Игорь Владимирович. – *У меня сейчас отпуск, как и было запланировано по графику. А время – лучший советчик, оно покажет, что к чему…*

**Марина КОКТЫШ.**

ЗА КРАТАМІ

## У Міколы Статкевіча – новы адвакат

*Дысцыплінарная камісія вырашыла, што адвакат **Уладзімір Сазанчук** здзейсніў учынак, не сумяшчальны са званнем адваката, – адмовіўся даць падпіску аб неразгалошванні матэрыялаў справы.*



*24 сакавіка Сазанчука выклікаюць у Міністэрства юстыцыі – не выключана, што яго, як і некаторых іншых адвакатаў, пазбавяць ліцэнзіі.*

“З 26 лютага я не працую, – *распавёў “Народнай Волі” Уладзімір Сцяпанавіч.* – Але 25 лютага я наведаў Мікалая Віктаравіча, каб развітацца і абмеркаваць з ім некаторыя нюансы”.

“Пазбаўленне ліцэнзіі – гэта помста рэжыму Уладзіміру за яго прынцыповую пазіцыю, – *так пракаментаваў Мікола Статкевіч сітуацыю са сваім адвакатам.* – Цяпер ужо ўсе бачаць, што правасуддзе ў нашай краіне ператварылася ў муляж”.

*Зараз Міколу Статкевіча абараняе адвакат **Уладзімір Сташкевіч**.*

“Малады, разумны, прынцыповы, працаваў па справе хлопца з бензапілой”, – *коратка ахарактарызаваў свайго калегу Уладзімір Сазанчук.*

*Якраз учора Марына Адамовіч, жонка Міколы Статкевіча, атрымала чарговы ліст ад мужа.*

“Не так даўно, вы ведаеце, Міколе прад'явілі канчатковыя абвінавачанні, цяпер чакаем, пакуль завершацца следчыя дзеянні, – *гаворыць “Народнай Волі” Марына Адамовіч.* – Верагодна, ужо хутка пачне знаёміцца з матэрыяламі справы.

Новы адвакат пазнаёміўся з Міколам у мінулы аўторак, а ў чацвер ужо паехаў на прад'яўленне канчатковага абвінавачання”.

*Ліставанне з мужам у Марыны Адамовіч больш-менш рэгулярнае, а вось спатканняў следчыя не даюць.*

“Было некалькі лістоў, якія не дайшлі, але я ведаю, што ён там паспрабаваў прааналізаваць сітуацыю, даць расклад сіл так званай сістэмнай апазіцыі, але, відаць, цэнзура не прапусціла, – *гаворыць Марына.* – Настрой яго моцны – ён не дазваляе сабе роспачы.

А вось што тычыцца спатканняў, то тут глуха. Я ўжо нават не ведаю, колькі напісала заяў! Зараз вось чарговую падрыхтавала. Адказваюць кожны раз аднолькава: “Немэтазгодна”. Дзесяць месяцаў чалавек за кратамі – нават у турме на строгім рэжыме за гэты час ужо далі б спатканне. А на звычайным рэжыме ўжо можна было б і да другога спаткання рыхтавацца”.

## Калі будзе працяг суда над Віктарам Бабарыкам?

*Адвакаты на ўчарашні дзень не маглі даць канкрэтны адказ на гэтае пытанне.*



“У пятніцу пацікавіліся – сказалі, што ў панядзелак не будзе судовага працэсу, – *сказалі “Народнай Волі” абаронцы банкіра.* – Папярэджвалі, што могуць пазваніць сёння і паведаміць, што працэс будзе заўтра. Бо гэта не пачатак працэсу, а ўсяго толькі перарыў, выкліканы пэўнымі абставінамі. Таму чакаем”.

## Кацярына Барысевіч падбадзёрвае тых, хто на волі

*Адвакат **Андрэй Мачалаў** бачыўся з журналісткай напрыканцы мінулага тыдня.*




“Мы бачыліся з ёй з самай раніцы, а восьмай гадзіне, і тады яшчэ не было навіны пра тое, што Генеральная пракуратура палічыла прысуд занадта мяккім і падала апеляцыйны пратэст, – *гаворыць Андрэй Мачалаў.* – Таму яна пра гэта яшчэ не ведае. Літаральна днямі мы пра ёй гэта паведамім. А наогул мы падалі апеляцыю – яна дала згоду на абскарджванне прысуду. Адчувае яна сябе як звычайна выдатна, у яе мора энергіі і пазітыву. Яна хутчэй сама падтрымлівае і супакойвае тых людзей, якія ёй з волі пішуць”.

*Ці можа Мінскі гарадскі суд узмацніць жорсткасць прысуду Кацярыне Барысевіч?*

“З улікам абставін справы такі пратэст Генеральнай пракуратуры быў прадказальны, – *выказвае сваё меркаванне адвакат.* – Мы спадзяваліся, што гэтага не будзе, але чакалі такога кроку. І гэта адзінкавы выпадак, калі апеляцыя мае права зрабіць прысуд больш жорсткім – калі пракуратура падае пратэст менавіта на мяккасць прысуду”.

## Павел Севярынец знаёміцца з матэрыяламі справы

*Зрабіць гэта ён павінен да 25 сакавіка.*



“Ніякіх навін ад Паўла няма – у лістах ён амаль нічога пра сябе не піша, – *распавяла “Народнай Волі” жонка палітыка Вольга Севярынец.* – Адзінае вядома, што ён ужо знаёміцца са справай. Да 25 сакавіка – так атрымалася. А пасля на працягу, здаецца, месяца, павінны будуць прызначыць суд.

Адвакат з Паўлам сустракалася, гаворыць, што настрой у яго нармальны, бадзёры. Ён верыць, што ўсё будзе добра. Я таксама апошнім часам з пазітыўным настроем. Не магу нават патлумачыць, чым канкрэтна гэта выклікана. Можа, такі настрой з-за таго, што хутка суд будзе, нарэшце ўсё вырашыцца, мы там пабачымся. Бо за ўвесь гэты час, што Павел за кратамі, нам не далі ніводнага спаткання! Мы падтрымліваем зносіны са сваякамі іншых палітзняволеных, дык некаторыя пішуць, што ім дазваляюць спатканні. Я нават не ведаю, як ім так пашанцавала. Мы не адну просьбу напісалі, і Паша пастаянна падае заявы на спатканні, і мы з юрыстамі рыхтавалі сур'ёзнае і абгрунтаванае хадайніцтва, але вынік нулявы. Нічога не працуе!”

*Нагадаем, што Паўла Севярынца абараняе адвакат **Таццяна Лішанкова**.*

***Павел Севярынец** праходзіць па адной справе з блогерам **Дзмітрыем Казловым** (“Шэры кот”) і астатнімі прадстаўнікамі “Еўрапейскай Беларусі” – **Паўлам Юхневічам, Яўгенам Афнагелем** і іншымі, а **Мікола Статкевіч** – разам з **Сяргеем Ціханоўскім, Ігарам Лосікам** і праграмістам **Дзмітрыем Паповым.***

## Кацярына Бахвалава не атрымлівае лісты

*“Чамусьці нашы пасланні Кацярыне не перадаюць”, – падзяліўся з “Народнай Воляй” апошнімі навінамі пра ўнучку вядомы журналіст Сяргей Ваганаў.*

“Мы пару-тройку лістоў ад яе з Валадаркі пасля суда атрымалі, а яна ад нас чамусьці не, – *гаворыць Сяргей Давідавіч.* – Але будзем спадзявацца, што сувязь усё ж такі наладзіцца.

У мінулую пятніцу Кацю наведаў адвакат Сяргей Зікрацкі. Але ж цяпер невядома, што будзе з самім адвакатам, – як вы ўжо ведаеце, яго запрасілі на пасяджэнне кваліфікацыйнай камісіі па пытаннях адвакацкай дзейнасці. Мяне ўсё гэта засмучае…

Цяпер чакаем, калі Мінскі гарадскі суд разгледзіць апеляцыйную скаргу. Пасля гэтага рашэнне суда ўступіць у законную сілу. Але колькі яшчэ часу Каця правядзе на Валадарцы – ніхто дакладна сказаць не можа. Суддзя, якая вяла судовы працэс, дала нам магчымасць з ёй спаткацца – усе па чарзе схадзілі, у тым ліку і я. Гадзіна даецца на спатканне. А пакуль спатканняў быць не можа, трэба чакаць, калі будзе разгледжана апеляцыя. Але мы трымаемся, і Каця таксама!”




**Падборку рыхтавала Марына КОКТЫШ.**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Вольга БРЫЦІКАВА: «Людзі ўсё бачаць і ўсё разумеюць...»

*Старшыня пярвічнай арганізацыі незалежнага прафсаюза наваполацкага ААТ «Нафтан» распавяла «Народнай Волі» пра сітуацыю на прадпрыемстве і настроі рабочых людзей.*

– Я працавала на «Нафтане» з 2004 года і апошнім часам узначальвала аддзел рэалізацыі нафтапрадуктаў, – *кажа наша суразмоўца.* – На жаль, шматтысячны калектыў не мае радаснай перспектывы.

**– Але ж на «Нафтане», напэўна, ледзь не самыя высокія заробкі ў горадзе?**

– Так, бо «Нафтан» і «Палімір» – гэта прадпрыемствы, на якіх і трымаецца горад. У лепшыя часы каля тысячы долараў людзі атрымлівалі, хаця, магчыма, і зараз нехта столькі мае. Усё залежыць ад таго, якую пасаду займаеш, ад стажу работы.

Дарэчы, не так даўно генеральны дырэктар агучыў сярэдні заробак на прадпрыемстве – ён складае каля 2 тысяч рублёў.

**– Ведаю, што раней вы былі на «Нафтане» сябрам афіцыйнага прафсаюза...**

– Так, да 20 жніўня мінулага года я была сябрам «Белхімпрафсаюза». Шчыра кажучы, гэта быў такі неасэнсаваны выбар. Калі ўладкоўваешся на працу, запаўняеш заяву і аўтаматычна ўступаеш у афіцыйны прафсаюз, калі не адмаўляешся ад гэтага. Я не адмаўлялася, бо лічыла, што гэта мне калі і не дапамагае, то не шкодзіць.

**– А насамрэч якія «пернікі» мае сябра афіцыйнага прафсаюза?**

– Асабіста я да пэўнага часу наогул пра гэта не думала. Згодна з Калектыўнай дамовай, асноўныя выплаты на прадпрыемстве не залежаць ад сяброўства ў прафсаюзе, і гэта норма распаўсюджваецца практычна на ўсіх работнікаў.

Калектыўныя дамовы заключаюцца ад імя прафсаюзаў, і сёння на «Нафтане» прадстаўлены дзве прафсаюзныя арганізацыі – «Белхімпрафсаюз» і Беларускі незалежны прафсаюз. Натуральна, што афіцыйны прафсаюз значна большы по колькасці.

**– Як здарылася, што вы пакінулі афіцыйны прафсаюз і ўзначалілі на прадпрыемстве пярвічную арганізацыю Беларускага незалежнага прафсаюза?**

– Пярвічка Беларускага незалежнага прафсаюза на «Нафтане» была зарэгістравана ў 2003 годзе. У лепшыя часы яна мела да 1500 сябраў, а ў жніўні мінулага года ў склад пярвічнай арганізацыі ўваходзіла ўсяго 60 дзеючых работнікаў і 80 чалавек з тых, хто ўжо знаходзіцца на пенсіі.

**– Чаму такая малая колькасць работнікаў «Нафтана» аддае перавагу незалежнаму прафсаюзу?**

– Таму што на людзей аказваецца пастаянны ціск, і многія палічылі за лепшае пакінуць арганізацыю. Ім перашкаджалі рабіць кар'еру, іншым чынам устаўлялі палкі ў колы...

Па вялікім рахунку, ціск на незалежныя прафсаюзы быў заўсёды, але гэты працэс таксама ішоў хвалямі. Рэпрэсіі то ўзмацняліся, то была пэўная лібералізацыя. Але сёння большасць рабочых баіцца ўступаць у незалежны прафсаюз, каб не мець дадатковых праблем.

Пасля жнівеньскіх падзей, якія мяне надзвычай узрушылі, мне прапанавалі ўзначаліць пярвічку Беларускага незалежнага прафсаюза ААТ «Нафтан», і я не адмовілася.

Я бачыла пасля выбараў той жах, які пачаў адбывацца ў краіне. Многія людзі, у тым ліку і рабочыя нашага прадпрыемства, пыталіся: «А што, так можна – не ўлічваць падчас выбараў меркаванне народа, які прагаласаваў, не лічыцца з гэтым самым народам?» Таму я ў тыя дні зрабіла свой выбар.

**– Што ў жніўні 2020 года адбывалася на «Нафтане»?**

– Тое самае, што і ва ўсёй краіне. Была незадаволенасць тым, што людзям плюнулі ў твар падчас выбараў, тым беспрэцэдэнтным гвалтам, які распачаўся ў дачыненні да людзей, якія проста адстойвалі свае правы і свае галасы.

На «Нафтане» рабочыя два разы выходзілі да заводаўпраўлення – 14 і 17 жніўня. Мы прад'явілі адміністрацыі і ўладам патрабаванні работнікаў, якія так і не былі выкананы.

Спачатку кіраўніцтва «Нафтана» спрабавала зрабіць выгляд, што ў краіне наогул нічога не адбылося, а на прадпрыемстве сярод рабочых ўсё ціха і спакойна. Затым яно актывізавалася – на тых працоўных, якія выказалі незадаволенасць дзеяннямі рэжыму, пачаўся ціск.

Трэба адзначыць, што пасля выбараў даволі шмат рабочых пакінулі афіцыйны прафсаюз, і частка з іх уступіла ў незалежны. Тады колькасць сябраў незалежнага прафсаюза павялічылася амаль у дзесяць разоў – з 60 да 550. Праўда, праз нейкі час 120 чалавек выйшлі з нашага прафсаюза. Не вытрымалі ціску, які пачаўся. І ён, дарэчы, не спыняецца да гэтага часу. Таму на сёння колькасць сябраў незалежнага прафсаюза зменшылася да 430 чалавек.

**– А колькі «нафтанаўцаў» пачалі страйкаваць?**

– Сёння такіх налічваецца каля 30 чалавек. Хаця наш прафсаюз да страйку ніякага дачынення не мае – людзі самі робяць свой выбар.

**– У вашай пярвічкі ёсць свой офіс на прадпрыемстве?**

– На жаль, няма, хаця «Белхімпрафсаюз» мае допуск на прадпрыемства. Пасля таго як у снежні мяне звольнілі з «Нафтана», пропуск мне не даюць, і я не магу сустрэцца з рабочымі непасрэдна на прадпрыемстве. І гэта вельмі перашкаджае справе, бо не можам сустрэцца з працоўным калектывам, пагутарыць з начальнікамі структурных падраздзяленняў.

Хаця ў горадзе офіс маем – у памяшканні, якое належыць ААТ «Нафтан», арандуем два пакоі.

**– Якую дапамогу вы аказваеце рабочым – сябрам незалежнага прафсаюза? І ці можаце вы ім рэальна дапамагчы?**

– Па-першае, мы прадастаўляем людзям магчымасць знайсці аднадумцаў – тых, хто гатовы выказваць сваё меркаванне і абараняць адзін аднаго.

І, натуральна, спрабуем супрацьдзейнічаць жаданню адміністрацыі выціснуць з прадпрыемства «ненадзейных». Удзельнічаем у разглядах судовых спрэчак, бо людзям выносяць часам абсалютна незразумелыя дысцыплінарныя спагнанні.

Ёсць таксама, як мы лічым, несправядлівае размеркаванне прэмій, бо з гэтага працэсу выключаюць сябраў Беларускага незалежнага прафсаюза. Таму пытанняў шмат – імі і займаемся.

**– Якім чынам ціснуць на рабочых?**

– Робяць усё, каб чалавек выйшаў з незалежнага прафсаюза. Практычна з кожным нашым сябрам прайшлі такія гутаркі. Недвухсэнсоўна даюць зразумець, што ў адваротным выпадку чалавек можа не здаць экзамен на допуск да самастойнай працы, могуць не працягнуць кантракт і гэтак далей. Некаторых выключылі з рэестра кіруючых кадраў, камусьці зрэзалі прэмію за высокае прафесійнае майстэрства. Служба бяспекі таксама праверыла сябраў незалежнага прафсаюза ў плане выканання працоўнай дысцыпліны. Ідзе сапраўдная масіраваная атака.

**– Якія зараз настроі ў працоўных на прадпрыемстве?**

– Мяркую, такія ж самыя, як і на астатніх заводах. Людзі ўсё бачаць і разумеюць, але маўчаць, таму што баяцца згубіць працу. Тым больш што ў такіх невялікіх гарадках, як Наваполацк, даволі складана знайсці іншую з добрым заробкам. Тут жа ўсе адзін аднаго ведаюць.

Таму нехта становіцца больш рашучым, а іншыя проста пайшлі ў цень. Не ўсе гатовы бегаць па барыкадах, калі патрэбна карміць сям'ю.

**– На сабе вы нейкі ціск таксама адчуваеце?**

– Мяне ўжо звольнілі. 17 жніўня мы збіралі подпісы з патрабаваннямі да ўлад і адміністрацыі «Нафтана», а 20 жніўня я лічыла гэтыя подпісы. Мне паабяцалі, што ў гэты дзень я буду вольная ад працы. Але ў выніку залічылі прагул, аб'явілі першую за ўвесь час працы вымову, а ў снежні звольнілі.

Таму зараз наймальнік на мяне націснуць не можа. Іншая справа, што кіраўніцтва «Нафтана» спрабуе ўхіліцца ад узаемадзеяння з нашым прафсаюзам. Многія нашы звароты заканчваюцца простымі адпіскамі. І пастаянна адчуваюцца перашкоды на шляху працы. Вось у гэтым плане адчуваецца ціск.

**– Не спрабавалі абмеркаваць гэтыя пытанні з генеральным дырэктарам «Нафтана»?**

– Пачынаючы са студзеня ўсе мае спробы сустрэцца з ім ні да чога не прывялі. Звярталася пісьмова, прасіла выдаць мне пропуск, але вынік нулявы. Хацела запісацца на прыём, але сустрэча не адбылася. Мне паведамілі, што генеральны дырэктар Андрэй Сойка з'ехаў у камандзіроўку, а пра наступную сустрэчу паведамяць дадаткова. Чакаю...

**– Не спрабавалі знайсці новае месца працы?**

– На гэты момант я ўзначальваю пярвічную арганізацыю Беларускага незалежнага прафсаюза на ААТ «Нафтан» і знаходжуся на вызваленай выбарнай пасадзе.

Пакуль жыве прафсаюз і людзі мне давяраюць, я не магу шукаць іншую працу.

**Алесь СІВЫ.**

СКАНДАЛ

# Кому нужен конфликт между Беларусью и Польшей?

*Вот уже который день государственные средства массовой информации разогревают скандал, возникший в связи с «героизацией военных преступников» на мероприятии «Польской школы» в Бресте. Как всегда, подаются односторонние комментарии.*

*«Народная Воля» не замалчивает этот вышедший уже за дипломатические рамки инцидент, но исходит из важнейшего журналистского принципа: выслушав одну точку зрения, огласи и другую, противоположную. Вот почему в сегодняшнем номере газеты мы знакомим своих читателей как с пресс-релизами Министерства иностранных дел Беларуси, так и с трактовкой произошедшего Временного Поверенного в Делах Польши в Беларуси* ***Мартина Войцеховского****.*

*Надеемся, читатели сами сделают выводы, а ситуация, возникшая между соседними странами, не будет поводом для дальнейшего продолжения конфликта.*

## О вызове в МИД Беларуси Временного Поверенного в Делах Польши

9 марта 2021 года в МИД Беларуси был вызван Временный Поверенный в Делах Польши в Беларуси Мартин Войцеховский. В ходе встречи польскому дипломату был заявлен решительный протест в связи с участием консула Генерального консульства Республики Польша в Бресте Ежи Тимофеюка в неофициальном мероприятии, посвященном «дню проклятых солдат», прошедшем 28 февраля 2021 года в г.Бресте с участием представителей связанных с Польшей неправительственных и молодежных организаций.

Принципиальная и последовательная позиция белорусской стороны в отношении «проклятых солдат» и их типичных представителей – «банды Бурого» остается неизменной и неоднократно доводилась до польской стороны. Абсолютно неприемлемы для нас героизация военных преступников, циничное оправдание геноцида белорусского народа, грубейшие нарушения обязательств польской стороны по недопущению героизации нацизма. Своими преступлениями в местах компактного проживания белорусского национального меньшинства «проклятые солдаты» под командованием Ромуальда Райса поставили себя на один уровень с гитлеровскими карателями. Память о сожженных деревнях, сотнях убитых и искалеченных мирных граждан священна для нашей страны. И Беларусь, и Польша заплатили колоссальную цену за выживание своих народов в той страшной войне.

Белорусская сторона не ставит и никогда не ставила под сомнение возможность и важность взаимодействия дипломатов с собственной диаспорой. Вместе с тем в нашей стране разжигание расовой, национальной, религиозной либо иной социальной вражды или розни и реабилитация нацизма являются уголовным преступлением. Участием в указанном мероприятии польский представитель грубо нарушил нормы международного права, в частности – Венскую конвенцию о консульских сношениях. В этой связи польской стороне была вручена нота, в которой консулу Генерального консульства Республики Польша в Бресте Ежи Тимофеюку предложено покинуть территорию Республики Беларусь.

**9 марта 2021 года.**

## О вызове в МИД Беларуси Временного Поверенного в Делах Польши

11 марта 2021 года в МИД Беларуси был вызван Временный Поверенный в Делах Польши в Беларуси Мартин Войцеховский. В связи с чрезмерным, асимметричным и деструктивным ответом Польши *(высылкой белорусских дипломатов из Польши. –* ***Ред.****)* на правомочное и мотивированное решение Беларуси в отношении консула Генерального консульства Польши в Бресте Е.Тимофеюка, а также игнорированием соответствующих просьб белорусской стороны, на основании статей 23 и 55 Венской конвенции о консульских сношениях до польской стороны доведено решение о нецелесообразности присутствия на территории Беларуси руководителя и консула Генерального консульства Польши в Гродно. Польской стороне вручена нота с предложением указанным лицам покинуть территорию Республики Беларусь в течение 48 часов. Принципиальная позиция белорусской стороны о неприемлемости героизации военных преступников и оправдания геноцида белорусского народа будет оставаться неизменной. Равно как и такие константы межгосударственных отношений, как недопустимость нарушения национального законодательства и необходимость работы в рамках Венских конвенций о дипломатических и консульских сношениях.

**11 марта 2021 года.**



## Мартин ВОЙЦЕХОВСКИЙ, Временный Поверенный в Делах Польши в Беларуси: «Мероприятие в «Польской школе» не имело никакого отношения к имени Ромуальда Райса (Бурого) и к событиям в Гайновке...»

– По имеющимся у нас данным, целью мероприятия *(прошедшего в Бресте 28 февраля. –* ***Ред.****)* было увековечение памяти тех людей, которые после Второй мировой войны в Бресте заботились о польских местах памяти, польских кладбищах, сохранении польской истории, – за это они были репрессированы, в том числе отправлены в Сибирь, в Воркуту. Только после смерти Сталина на волне оттепели они смогли вернуться в Польшу. Из известных мне людей могу назвать господина Рышарда Снарского, который жил в Бресте.

Мероприятие в «Польской школе» не имело никакого отношения к имени Ромуальда Райса (Бурого) и к событиям в Гайновке, в отличие от того, что утверждают государственные белорусские СМИ и некоторые эксперты.

*Напомним: белорусская прокуратура суть мероприятия сформулировала так: «Облаченные в национальную форму польской скаутской организации молодые люди исполняли песни, читали стихи во славу военных преступников, в том числе Ромуальда Райса, известного под прозвищем Бурый».*

– Может быть, стихи и читали, но 100 процентов не во славу Райса, его имя на той встрече даже не упоминалось. Мы это тщательно проверяли, если бы было по-другому, наш консул просто не участвовал бы в такой встрече. Мероприятие, по нашей информации, проходит в Бресте уже несколько лет, и никогда оно не вызывало интереса, внимания, резонанса в той степени, в которой это произошло в этом году.

Команда скаутов, выступавшая на мероприятии, носит имя Снарского. Это просто люди, которые собираются, чтобы изучать польский язык, культуру, традиции. Из польской скаутской традиции они берут элементы, но не являются частью какой-то польской структуры или организации.

При этом событие было приурочено к 1 марта – дню, когда в Польше вспоминают участников антисоветского подполья, боровшихся за независимость страны. Этот праздник охватывает всех людей, которые после Второй мировой войны в той или иной форме оказывали сопротивление коммунистической власти, за что были репрессированы. Но еще раз хочу подчеркнуть, что имя Бурого не упоминалось. Наш консул участвовал во встрече, которая была посвящена местной истории, местным событиям, – они, по нашему мнению, не имеют никакого антибелорусского контекста и подтекста.

В этом году белорусы и поляки участвовали в совместных мероприятиях по увековечению памяти жертв Ромуальда Райса в Гайновке.

Мы понимаем озабоченность белорусской стороны личностью Ромуальда Райса и теми событиями, которые в прошлые годы имели место в Гайновке. Но хочу обратить внимание, что в этом году никакого марша в поддержку Бурого в Гайновке не было. Наоборот, там прошли мероприятия по увековечению его жертв. И в них приняли участие представители местных властей, белорусской диаспоры в Польше, польского гражданского общества, православной церкви, а также высокие представители белорусского посольства в Варшаве и консульства в Белостоке. Белорусская сторона прекрасно знает, что польское государство считает действия Бурого против белорусского населения военным преступлением. Заключение по этому поводу еще в 1990-е годы выдали польские соответствующие институты, и никто его не отменял. Да, действительно, в этом году небольшая группа людей устроила автопробег на машинах для почтения «проклятых солдат», но, мне кажется, они чтят те эпизоды из их биографии, которые заслуживают почтения. История бывает сложной, особенно в военные или послевоенные годы. Одни и те же люди на одном этапе собственной биографии могут совершать героические поступки, а на другом – даже совершать преступления, особенно если они действуют самостоятельно, не подчиняются каким-то организованным структурам.

Вся ситуация вокруг «Польской школы» – недоразумение. Может быть, не хватает информации, может быть, не все в Беларуси знают контекст дня памяти 1 марта или кто-то не совсем правильно представил информацию по этой встрече. Я надеюсь, что со временем всё выяснится и ситуация не будет поводом для продолжения конфликта. Надеемся, что люди, которые связаны со школой, будут освобождены. Но это будет решением белорусских властей.

